чым ўсестаронна развівацца, каб ня мог стварыць сваей прамышленасьці, якая дала-бы тут, на мейсцу, работу і хлеб сотням тысяч наших людзей, — дзеля гэтаго польская буржуазія і дабіваецца палітычнаго панаваньня над намі. Навучэная палітыкай царскаго самадзержаўнаго правіцельства, яна ведае, што, маючы ў руках уласць над нашым краем, польская буржуазія заўсёды здалее забаспечыць перэвагу сваей прамышленасьці і сваім купцом над тутэйшымі.

Другая прычына, якая цягне пад польскае панаваньне тутэйшую польскую буржуазію, гэта страх за сваю зямлю. Усе нашы вялікіе паны-земleўласьнікі—гэта палякі, і сіла іх аснована на вялікіх зямельных абшарах, каторымі яны ўладаюць. Аграрны рух, які узняўся ў Расеі і які дабіваецца конфіскаціі казённых, манастырскіх і дворных зямель, не дае ім спаць спакойна: яны баяцца, каб той рух у такой ці сякой формі не перакінуўся да нас. Вось, уся іх надзея на утрыманьне ў сваіх руках зямлі — гэта і ёсць далучэньне да Польскай монархіі, дзе каралеўскае правіцельство павінно будзе апірацца на панох і не дасць іх пакрыўдзіць....

Само сабой ясна, што массы тутэйшаго рабочаго народу, усё роўна, якой нацыональнасьці, ня могуць спагадаць ва ўсім гэтым польскай буржуазіі, — тым болей, што жаданьня апошняй, рэзка праціўные інтэрэсам нашых работнікоў і селян, пярэчаць і прызнанаму ўсім сьветам праву кожнаго народу і краю жыць сваім асобным жыцьцём. На гэтым грунці і бачым мы ў нашым краю рэзкі раздзел: з аднаго боку стаіць польская буржуазія, польскае панство; з другога — ўся масса насяленьня краю, а ў гэтым ліку нават тые работнікі, якіе калісь выйшлі з беларускай або літоўскай вёскі, прынялі польскую мову і цяпер называюць сябе палякамі.

Між тутэйшай польскай інтэлігенціей нам часта даводзіцца чуць скаргі на беларусоў, што яны бытцым то выступаюць проці польскаго панаваньня з ненавісьці да палякоў. Але гэта — зусім пустая гутарка: тут справа ідзе не аб прыхільнасьці ці ненавісьці да другіх, а аб тое, каб забаспечыць нашаму народу вольную, ясную будучыну, каб недапусьціць паняволеньня тутэйшых работнікоў і селян польскай буржуазіей, польскімі капіталістамі, фабрыкантамі, панамі.

*Грамадзянін.*

# У Вільні і ваколіцах.

× **Гадаўшчына.** 31 мая была першая гадаўшчына марской бітвы пры Скаггэраку. Паводлуг сабраных там марскіх сіл, гэта была найвялікшая бітва ўсіх часоў.

Каб паказаць гэта, цікава адзначыць гэткіе цыфры:

У бітве пры Трафальгары англіцкі флот меў забітых 499, а ў бітве пры Скаггэраку — 6.104. Пры Трафальгары гішпанцы і французы мелі забітых 4.522; немцы пры Скаггэраку — 2.414.

× **„На Антокалі“.** Трэйці ўжо раз беларуская драматычная дружына ставіла ў Цырку на Лукішках гэту п'есу свайго кіраўніка, п. Ф. Олехновіча. Але трэба прызнацца, што трэйці спэктакль значна уступае першаму...

Глаўная прычына гэтаго — тое, што спэктакль пачаўся лішне позна, і найбольш жывы і яркі трэйці акт прышлося блізка напалавіну скараціць, каб закончыць яго перад 10 гадзінай і каб публіка і артысты пасьпелі вярнуцца да хаты перад «Polizei Stunde». Адпалі характэрные танцы і вельмі жывая опошняя массовая сцэна.

Ня будзем казаць аб ігры артыстоў, выступаўшых раней, і затрымаемся над выступленьнем п. Я. Кучко, каторая замяніла захварэўшую п. Мэнкэ ў ролі Зоські. Голас у яе чысты і сільны, але нявыраблены, і ў гэтым кірунку ей трэбалоб над сабой добра папрацаваць. Ігра — даволі натуральная і момэнтамі — жывая; але, наагул, відаць ешчэ слабое знаёмство са сцэнай і недахват таго сцэнічнаго нэрву, каторы робіць кожную ролю лёгкай і прыступнай. Тым больш трэба адзначыць працавітасць дэбютанкі, каторая ролю Зоські апрацавала старанна, заслужыўшы на сымпатычны прыём у сабраўшайся публікі.

× **Беларускі Клюб.** У мінулый панядзелак, на другі дзень Тройцы, у Клюбе адбылася першая вечарынка ў новай гасподзі—быўшай салі «Руты», пры Сьв.-Юрскім праспэкці 22.

С прычыны цяжкой хваробы кіраўніка артыстычным аддзелам, п. А. Вадзінскаго, спыніліся часова сымпатычные музыкальные вечары, і ў гэту суботу і нядзелю маюць быць у клюбе толькі звычайные танцавальные забавы.

Будзем спадзевацца, што з выздараўленьнем п. Вадзінскаго нашы музыкальные і драматычные сілы дадуць нам правясьці у клюбе ешчэ не адзін сымпатычны вечар.

× **„Нашы песьняры“.** «Wilnaer Ztg.» друкуе ў перэкладзі наш фэльетон пад загалоўкам „Нашы песьняры“.

× **За «хрышчэньне» малака** — Уладыслаў Савіцкі, вул. Жалезнай Хаткі, аштрафован на 150 м., Зофія Васілеўская, Зарэччэ 5, — на 50 м., Караліна Драгуновіч, Чэканы, — на 20 м.

× **Курс рубля:** офіцыальны — 2 м. 00 фэн. за рубель; у банках пры прадажы — 2 м. 43 ф., пры куплі—2 м. 47 ф.

Пазычковая каса бярэ 6%.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 30 мая | + 28,5° | + 14° |

# Офіцыальны аддзел.

## Апавешчэньне

**аб найме работнікоў.**

Дзеля публічных работ патрэбны работнікі-мужчыны. Заяўляцца можна да **10 чэрвеня 1917 г. 6 гадз. папал.** у старым Ратушу, Домініканская 2, пакой 86.

Падзённая плата **дабравольна** паступіўшым на работу:

нялетнім работнікам—дармовая страва і 1.40—1.80 м.,

сталым работнікам 1.70—2.50 м., адлічаючы 1 марку за страву.

**Апрыч таго** работнікам можэ быць дадзена падмога для сям'і 0.50 м. у дзень, каторых ня вылічаюць з заработнай платы.

Калі да назначэнаго часу не явіцца патрэбнае чысло рабочых сіл, дык яны ў патрэбнай меры будуць узяты **пад прынукай.**

Узятые **пад прынукай** цывільные работнікі будуць атрымліваць пры дармовай страве **толькі** 0,30 м. Апрыч таго можэ быць дадзена падмога 0.50 м. сем'ям жанатых работнікоў і такіх, каторые павінны паддзержываць членоў сям'і.

Вільна, 28 мая 1917 г.

Der Stadthauptmann
**Pohl.**

Асобы, каторые пражываюць у V і VI міліцыйных цыркулах і з якой-будзь прычыны дагэтуль не маюць пашпарту Об. Ост, павінны явіцца ў свае міліцыйные цыркулы — Піўная 15 і Зарэчная 16, каб выбраць пашпарты.

# З усяго Краю.

**„Таргован палата для басэйну Нёмана“.**

Таргован палата ў Тыльжы прыняла цяпер названьне «Тарговай палаты для басэйну Нёмана». Гэтым названьнем яна хочэ адзначыць экономічную звязь між усімі землямі ажно да усьця ў басэйні Нёмана. Рэгуляція беларускай нацыональнай ракі да Гродні абярнула-бы Нёман у незвычайна важную артэрыю для таргоўлі і прамышленасьці, і Коўна сталася-бы глаўным перэдатачным пунктам між Усходняй Прусіей і землямі Обэр Ост.

**Падатак з дзічыны.**

Ад 1 мая спажыўцы павінны плаціць спэцыальны падатак за дзічыну: за вялікшую — 1.50 м. за кілёгр., за зайцоў — 3 м. за штуку, за птацтво — залежне ад велічыні і гатунку — ад 2 м. да 70 фэн. За дзікіе качкі падатку плаціць ня трэба.

**Фальшывые грошы.**

У нашым краю з'явіліся фальшывые 10-фэніговые і 3-капеечные манэты. Яны адбіты не зусім чыста і не зусім круглые.

---

СЬВІСЛОЧ. 5 чэрвеня ў тутэйшай **беларускай вучыцельскай сэмінарыі** адбудуцца выпускные экзаміны. Гэты курс слухало 25 вучнёў (12 дзеўчат і 13 хлапцоў). Здаўшые добра экзамін вучыцелі будуць назначацца у школы ла-

# МУЖЫК.

Я—мужык, бедак пахілы.
Усе ўсчуваюць мужыка,
Цягнуць кроў з яго і жылы,
Надрываюць яго сілы, —
Ў мазалёх яго рука.

Я—мужык, я—сын пакуты;
На мякіне вырас я;
Гічанамі пузо ўздуто,
Ногі ў лапцікі абуты,
Бедна опратка мая.

Я—мужык, я—сын бядноты,—
Не даем і не дасплю,
Гнуся ціжаром работы,
Дзень працую за два злоты,
Здзекі ўсякіе цярплю.

Я—мужык, ня чую звону;
Толькі есць мяне чэрвяк:
Ці ня хлусіць поп з амвону,
Што цару Бог даў карону?
Тут што-небудзь ды не так....

Я—мужык, а гонар маю,
Гнуся толькі да пары;
Я маўчу, пакуль трываю,
Але скора загукаю:
— „Бомы, хлопчыкі, бяры!“

**Якуб Колас.**

# Нашы песьняры.

**3. Цішка Гартны.**

Між песьнярамі «Маладой Беларусі» перэважывае ідэолёгія селянская: найбольш паэтоў і пісьменнікоў дае беларуская вёска. І Купала, і Колас, і цэлы рад песьняроў меншай меры апеваюць родную вёску, ў каторай яны радзіліся, узрасталі і праводзілі вялікшую часць свайго жыцьця, — і ўсе іх ідэалы звязаны з зямлёй. Але, нарадзіўшыся на вёсцы, беларускі рух да адраджэньня скора захапіў і местовые элемэнты — работнікоў, рамесьнікоў, інтэлігэнтоў. І ў маладой беларускай літэратуры знаходзім так-жэ даволі выдатных прэдстаўнікоў работніцкай ідэолёгіі.

С-паміж апошніх звертае на сябе увагу песьняр-работнік Цішка Гартны.

„Я — пісаў ён у сваей аўтобіографіі ў 1912 гаду*) — ядыны сын бедных мужыкоў з м. Капыля (Мінскай губ.), быўшых мешчан, праваслаўны, радзіўся ў 1887 г. Раннее дзецтва правёў дома на руках бабкі па матцы і двох дзядоў — па бацьку і па матцы, каторые мяне дужа любілі. Калі меў 12 гадоў, бацька аддаў мяне за пастуха у сваё мястэчко, дзе я праслужыў пяць год. Летам ганяў у поле, а зімой вучыўся: спачатку ў «дарэктара», а пасьля ў народным і двукласным вучылішчах. Скончыў гэтые школы, маючы гадоў 17, і, не захацеўшы гатовіцца ў сэмінарыю, я схадзіў у Кіеў, скуль калі вярнуўся, быў захоплен асвабадзіцельным рухам, каторы вырабіў у мяне такі пагляд на жыцьцё: чэлавек, калі не працуе, ня можэ быць праўдзівым чэлавекам, як пэўны насьледнік будучаго лепшаго жыцьця. З гэтым паглядам я і пайшоў вучыцца на гарбара (што скуры на боты выробляе); выбраў гэтае рэмясло затым, што ў той час рамесьнікі-гарбары лічыліся ў нашым мястэчку «перэдавымі людзьмі». Потым, у 1908 г., пробаваў паступіць у вучыцельскую сэмінарыю ў Несьвіжы, дзе ўжо здаў быў добра ўсе экзаміны, і толькі не прынялі мяне там дзеля таго, што не прэдставіў «сьвідзецельства а благонадзёжнасьці». Такім спосабам, згубіўшы можнасць вучыцца далей, я астаўся гарбаром і пачаў чытаньнем дапаўняць сваю прасьвету. Ў канцы 1908 г. пазнаўся з беларускім рухам і пранікнуўся ім усей душою. Пісаць меў нахільнасць з маладых год і шмат напісаў вершаў і апаведаньнеў

*) Гл. «Маладая Беларусь», сшытак 2, 1912 г.

да работы. Рэзолюція гэта прынята с тэй умовай, што параграф аб наборы ў салдаты работнікоў, якіе працуюць у фабрыках амуніціі, будзе скасован. Меншасць дамагалася баставаць далей, ажно пакуль правіцельство не скасуе гэтаго параграфу, і толькі тады прыступіць да работы.

БЭРН (В. Т. Б.). У англіцкай Ніжняй Палаці Ллойд Джордж прызнаўся, што нездавольство работнікоў робіць правіцельству многа клапотаў. З гэтай прычыны правіцельство пастанавіло назначыць сьледчую камісію, каб дайсьці прычын нездавольства і зніштожыць іх рэформамі. Кіраўнікам работнікоў, каторые ў часі забастоўкі на Клейдзе ў марцы 1916 г. былі высланы, пазволено вярнуцца ў родную старану.

ПАРЫЖ. Аб забастовачным руху «Figaro», «Gaulois» і «Action Francaise» пішуць з вялікай трывогай.

Калі забастоўка зробіцца агульнай, дык яна будзе мець характэр змаганьня за мір.

Газэта дамагаецца ад ураду энэргічных крокаў.

Палата дэпутатоў зацьвярдзіла праект закона, паводлуг каторага работніцы ў гасударственых швальнях звальняюцца ад работы ў суботу паабедзі.

разбіты нашым агнём. Гэтым разам страты ворагоў на Ізонцо значна перайшлі меру страт у ранейшых бітвах. Ваколіцы перад нашымі пазыціямі засыпаны італьянскімі трупамі.

ВЕНА. 29. V. **Італьянскі тэатр:** Пасьля ціхай нядзелі, ўчора ізноў разгарэлася баталія. Пасьля магутнаго агня артылерыі, на ўсім фронці пачаліся атакі ворагоў. Шмат дзе даходзіло да вострых бітв на штыкі, каторые трывалі і ў начы. Наш фронт усюды астаўся ненарушэны, ня гледзячы на ўсе стараньня ворагоў. На поўначы ад Гэрцу мы ў часі атакі італьянцоў узялі ў палон 200 душ. На палудні ад Ям'яно ворагі ўчора ізноў атакавалі чатыры разы і, апрыч крывавых страт, утраціл палоннымі 15 афіцэроў і 800 салдатоў. Ад пачатку баталіі на Ізонцо ўзяты ў палон 14 500 італьянцоў.

ВЕНА. 30. V. **Усходні тэатр:** Значная баевая работа ў Усходняй Галічыне.

**Італьянскі тэатр:** На Ізонцо даволі ціха. У вечары італьянцы прабавалі прарвацца вялікімі сіламі каля Водіцы. Атака зломлена пад нашым агнём. Гэтак сама скончыліся і атакі проці Ям'яно.

БЭРЛІН (В. Т. Б.). Новые ўдачы падводных лодак у Англіцкім каналі і Паўночны моры — 27.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Новые ўдачы падводных лодак у Атлянтыцкім акіані і Англіцкім канали: 26.000 тонн.

Новые ўдачы ў Сяродземным моры: затоплено ізноў 50.000 тонн.

ВАШЫНГТОН. Францыя і Англія для сябе і сваіх саюзьнікоў атрымаюць пазыку 745 мільёнаў доляроў.

Генэрал Пэршынг з дывізіей чыннай арміі, 1 палком марской пяхоты і 9 палкамі сапёраў паедзе на францускі фронт.

## Магічны квадрат.

(гл. № 39 «Гомана»)

Развязка:

| | | | |
|---|---|---|---|
| ш | п | а | к |
| п | а | в | а |
| а | в | ё | с |
| к | а | с | а |

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкіе апавешчэньня:

### 29.V. Заходні тэатр:

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* У вароці Вітчэта узмацаваўся агонь. Гэтак сама на канали Лябассэ і на паадзінокіх адрэзках наабапол Скарп.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Французы прабавалі ў начы неўспадзеўкі атакаваць нашы пазыціі каля хутара Іртэбіз і млына Воклер, але былі адбіты нашымі вартамі.

### Усходні тэатр:

На некаторых адрэзках фронтаў ізноў ажывілася баевая работа. Мы лічымся з магчымасьцю расейска-румынскіх атак.

*Македонскі фронт:* У вароці Чэрнай агонь крапчэў. На заходнім беразі Вардара боўгары адбілі наступленьне некалькіх англіцкіх рот.

### 30.V. Заходні тэатр:

Увесь дзень значная работа артылерыі на адрэзку Вітчэта. Наступленьня англічан на фронці Артуа і французоў—проці Шмэн дэ Дам адкінуты.

### Усходні тэатр:

Без выдатных прыпадкоў.

## Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА. 28. V. **Італьянскі тэатр:** Бітвы на Ізонцо ўчора шмат аслабелі. Сягоньня раніцай ворагі на плоскагорыі Карст, у ваколіцах Ям'яно, тройчы прабавалі неўспадзеўкі напасьці на нашы лініі, але яны былі адкінуты, утраціўшы 6 афіцэроў, 300 салдатоў і 2 кулемёты. Італьянскіе колонны, атакаваўшые проці Костан'евіцы,

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. (В. Т. Б.). За апошні час на ўсходнім фронці выяўляецца больш энэргічная чыннасць лятуноў ворагоў. У адказ на кінутые імі бомбы мы кінулі бомбы на склад амуніціі ў Падгайцах. На востры агонь варожай артылерыі на Смотрэцу і на адрэзку Мэстэканэсті мы адказалі тым жэ самым.

ЛОНДОН. (Рэўтэр). — **Урадова.** Лятучая эскадра ворагоў, зложэная блізка с 16 самалётаў, атакавала ўчора вечарам палудзенна-усходнюю Англію. Блізка ўсе шкоды даткнулі адно места; пры гэтым забіты 76 асоб (27 кабет і 23 дзяцей) і ранены 174 асобы (43 кабеты і 19 дзяцей), ды цяжка пацярпелі магазыны і дамы.

Адміралцейство даносіць, што стрэламі збіты 3 самалёты ворагоў.

АМСТЭРДАМ. Як даносіць з Лондона Рэўтэр, у часі апошняго нямецкаго налёту найвялікшые страты меў Фолькстон. Чысло забітых даходзіць 66 душ.

БЭРЛІН. (В. Т. Б.). Адна з нашых лятучых эскадр кінула на англіцкі табор пры Аррас 3.000 кілёгр. узрыўчатых матэр'ялоў, ад каторых узняліся вялікіе пажары.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 25 мая нашы марскіе лятуны збілі два самалёты ворагоў.

26 мая тры нашы марскіе лятуны сустрэціліся с 4 францускімі лятучымі лодкамі і збілі ўсе чатыры. Выратаваны 4 афіцэры і 2 унтэрафіцэры; рэшта утанула. Узята адна французская лятучая лодка.

25 мая адна з нашых падводных лодак збіла англіцкі марскі самалёт і паланіла 2 лятуноў.

БЭРН. Агульные страты у англічан афіцэрамі ў бітве на Аррас да 20 мая даходзяць 4.645 душ. Паводлуг гэтаго трэба лічыць, што страты салдатамі даходзяць 197.000 душ.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Ад пачатку вайны да 31 мая саюзьнікі утрацілі 252 ваенные параходы ёмкасьцю разам 890.765 тонн. У тым ліку англіцкіх 155 — 671.700 тонн.



**Друкавана у друкарні М. Кухты.** **Выдавецтво «Гоман».** **Рэдактар Язэп Салавей.**